**Жнівень 2000**
Нумар 1
наклад 150 ас.
222120 Барысаў-15
п/с 641
mp@crossrd.org.by



# Малое ПАЛЕСЬСЕ



МОЛАДЗЕВАЕ ВЫДАНЬНЕ КРУПШЧЫНЫ

# ПАЧАТАК СВАЁЙ ДАРОГІ

Дарагія чытачы, у першым нумары першай у гісторыі Крупскага краю моладзевай беларускай газэце "Малое Палесьсе" вашай увазе прапануецца сэрыя цікавых і разнастайных аўтарскіх артыкулаў, якія напісалі нашыя крупскія юнакі й дзяўчаты. На чатырох старонках нашага выданьня вы знойдзеце ўспаміны й расповеды пра вандроўкі, раскопкі й цікавыя знаходкі на Крупшчыне й Бярэзіншчыне, пра наведваньне Менскага гістарычнага музэю, пра сьвяткаваньне моладзьдзю з усяе Беларусі перамогі нашых славутых продкаў у 1514 годзе пад Воршаю.

У наступных нумарох мы будзем імкнуцца рабіць нашае "Малое Палесьсе" як мага больш разнастайным па тэматыцы й узьнятай праблематыцы. Але якасьць нашага выданьня шмат у чым будзе залежаць ад вашай, дарагія чытачы, актыўнасьці. Нам бы вельмі хацелася, каб многія з вас далучыліся да работы над нашай маленькай газэткай: шукалі адметную й зьмястоўную мясцовую інфармацыю, пісалі нам лісты, дзяліліся сваімі творчымі здабыткамі і ўражаньнямі. Мы ў сваю чаргу пастараемся зрабіць усё магчымае й немагчымае, каб слова кожнага з вас знайшло адлюстраваньне на старонках "Малога Палесься".

Адзінае, што мы хацелі б адразу падкрэсьліць і нейкім чынам вылучыць. Нашае выданьне будзе выходзіць у нашае роднае беларускае мове, прычым клясычным, "тарашкевічаўскім" правапісам, які пакуль што ня так вядомы сярод беларусаў, як гэта павінна быць. На нашых старонках ня будзе месца безгустоўнасьці, хамству, нянавісьці. Мы паспрабуем зрабіць нашае выданьне адкрытым для ўсіх і кожнага, каму дарагія паняцьці: Радзіма, свабода, любоў.



*На дрэве жыцьця*

Дарагія чытачы, нам усім патрэбна ўсьвядоміць адну, здавалася б, простую ісьціну, але, на першы пагляд, някідкую. Толькі мы самі зможам зрабіць нашу краіну такой, як мы яе бачым у сваіх марах.

Да пабачэньня! Лістуйце!

**Рэдакцыя**

СПАДЧЫНА

# ШТО МЫ ШУКАЛІ Ў БАБРОЎСКІХ ЛЯСОХ?

**У сваёй кнізе "Памяць" Л.Побаль пісаў, што гарадзішча, якое знаходзіцца дзесьці ў Бабры, разбуранае. Але доказу гэтага няма. Таму мы вырашылі знайсьці тое "разбуранае" гарадзішча.**

Мы адправіліся на станцыю Бобр. Ішлі па лясной дарозе некалькі кілямэтраў уздоўж ракі. Але гарадзішча не знайшлі. Пасьля гэтага нечакана ўлезьлі ў нейкі малíньнік. Ён быў вельмі густы й калючы. Доўга мы па ім лазілі, падралі адзеньне, але так нічога й не знайшлі.

Ды на гэтым наш гурток не спыніўся і праз тыдзень зноў пайшоў на пошукі. На гэты раз нам пашанцавала больш. Мы знайшлі гарадзішча!

Яно знаходзілася на марэне, а паабапал – старажытныя, ледавіковае пары, рэчышчы шырынёй у чатыры мэтры, якія ўпадалі ў раку Бобр. Пэрымэтар гарадзішча складаў прыкладна 40-50 мэтраў.

Трэці раз наш гурток пайшоў на гарадзішча разам з гуртком настаўніка Андрэя Пятровіча Аляхновіча. На гэты раз мы пайшлі іншай дарогай, дзе сустрэлі турыстаў. Да гарадзішча дабіраліся тымсамым шляхам, як гэта некалі рабілі старажытныя жыхары. Дарога была гразкая.

Зайшоўшы на гарадзішча, мы вырашылі закласьці шурф. Адразу, як толькі разгрэблі лісьцё, была знойдзеная прасьліца. Далей – кавалкі керамікі. Знаходкі дазволілі датаваць гарадзішча часам паміж ІІ стагодзьдзем да н.Х. і VII стагодзьдзем пасьля н.Х. Культурны слой складаў прыблізна 40 сантымэтраў.

З гэтымі знаходкамі мы адправіліся дадому шчасьлівыя й гордыя, бо сталіся "першаадкрывальнікамі" "разбуранага" гарадзішча!

**Вольга Выглазава**

# СТАРАЖЫТНЫЯ МЕСЦЫ ВЁСКІ СОМРЫ

**У Беларусі шмат мясьцінаў, дзе знаходзяцца гістарычныя помнікі: курганы, могільнікі старажытных часоў, гарадзішчы. Адно з такіх месцаў – вёска Сомры, куды й адправіліся мы зь сябрамі з Крупак, вёсак Дзянісавічы й Старая Слабада.**

Таксама ў гэтае цікавае падарожжа адправіўся й беларускі бард Андрэй Мельнікаў. Мэтай нашае вандроўкі было знайсьці гарадзішча недзе каля вёскі Сомры, у аднайменным урочышчы Гарадзішча. Калі мы прыехалі ў Сомры, дык пайшлі паглядзець на культавыя камяні. Адным зь іх зьяўляўся камень пад назвай "Божае крэсла". Гэты камень быў падобны на крэсла, і, гаворыць, што на ім калісьці сядзеў Бог. Калі мы пайшлі далей, дык убачылі, што жаўнеры капалі нейкія яміны. Мы даведаліся, што яны шукалі пахаваньні часоў апошняе вайны, але так і не знайшлі, бо бабулькі не дазволілі капаць на сваіх градох.



*Тут сядзеў Бог*

Наш лягер знаходзіўся ў лесе. Усяго нас было больш за трыццаць чалавек.

Гэтае трохдзённае падарожжа было вельмі цікавае, таму што сьпявалі песьні амаль да раніцы, хадзілі шукаць гарадзішча – да стомы ў нагох. Гарадзішча тое мы так і не знайшлі, але за тое знайшлі капішча паганскіх часоў.

Але ўсяму ў сьвеце бывае канец. Нашае падарожжа таксама скончылася, хаця мы не ўсё адшукалі, што хацелі, але ўсё ж такі вярнуліся дадому з жалем. Гэтае падарожжа не аднаму мне, але і ўсім ягоным удзельнікам запомнілася на доўга.



**Андрусь Шклёнак**

СПАДЧЫНА

# ТАМ КАЛІСЬЦІ БЫЛА ВЁСКА...


Каменныя крыжы ў лесе

**Шырнавецкае поле знаходзіцца на месцы, дзе рака Яленка ўпадае ў Бобр.**

Гэтае поле так называецца таму, што там яшчэ раней знаходзілася вёска Шырнавічы. Яна ўпершыню згадвалася пад 1481 годам, але ў 1937-м, на вялікі жаль, была зьнесеная ў ваенных мэтах Чырвонай арміяй. Мы прайшліся па пустой вуліцы, абапал якой знаходзіліся толькі старыя камяні ды расьлі дзікія дрэвы.

На ўсім сваім шляху пад нагамі мы зьбіралі толькі аскепкі бітае керамікі – гэта ўсё, што засталося ад загінулага паселішча. Застаецца хіба згадаць яшчэ й маўклівыя крыжы на запусьцелых могілках, якія сустрэлі нас у лесе напрыканцы былой вёскі.

А яшчэ мы вельмі хацелі адшукаць стаянку каменнага веку, якую выявілі архэолягі яшчэ ў 30-ых гадох. Праўда, гэта мы здолелі зрабіць толькі з трэцяе спробы.

**Зьміцер Хвашчэўскі**

# ХАРЧЫЧЫНСКІЯ КУРГАНЫ

**Харчычы – вёска на поўначы Бярэзінскага раёну, дзе ў навакольлі знаходзіцца каля 200 курганоў. Гэта буйнейшае месцазнаходжаньне курганоў у Беларусі.**



Нашаму гуртку вельмі хацелася туды зьезьдзіць. На тое месца амаль кожны год прыяжджаюць студэнты БДУ. На архэалягічным факультэце БДУ вучыцца мой новы сябар і былы вучань Пушкінай Яніны Аляксандраўны – Зьміцер. Мы паехалі да яго. Адразу, прыехаўшы ў вёску непадалёк ад Харчычаў, — Знаменку, пайшлі каля высакавольтнае лініі. Гэтак мы прайшлі каля сямі кілямэтраў і амаль заблукалі, але знайшлі прасеку, якая нечакана прывяла нас да лягеру. Там я ўпершыню пазнаёміўся з тэхнікай раскопак курганоў. Знайшлі шмат рэчаў, якія зацікавілі нас – жаночыя ўпрыгожваньні (пацеркі, бранзалеты, крыжык), амаль цэлы збаночак. Гэтыя курганы належалі нашым продкам, якія жылі прыкладна ў XI – XII стагодзьдзях.

Прычым раскопвалі архэолягі меньшыя курганы, а большыя не чапалі (як вы думаеце, чаму?). Праўда, "цэлых" курганоў амаль не засталося... Побач зь курганамі знаходзяцца позьнесярэднявечны могільнік з мноствам каменных крыжоў.

Яшчэ мы ўпершыню пабачылі там начныя агеньчыкі сьветлячкоў!

Не хацелася зьяжджаць дамоў. Але супакойвала тое, што наперадзе яшчэ шмат цікавых вандровак.

**Зьміцер Хвашчэўскі**

# ШТО ГАВОРЫЦЬ ЛЕГЕНДА?

**Кожны архэалягічны помнік мае сваю непаўторную легенду.**

Якую легенду мае Баброўскае гарадзішча? Мы распыталі бабульку, якая шмат што пабачыла й пачула на сваім вяку. Вось што яна нам расказала.

Баброўскае гарадзішча знаходзіцца ў надзвычай маляўнічым урочышчы "Замачак". Там стаяла некалі найпрыгажэйшая царкоўка. Але потым яна раптам... правалілася пад зямлю. Але чаму так адбылося невядома. Гэтаму можна й не паверыць, аднак кожная легенда грунтуецца не на пустым месцы...

**Марыя Бруніч**

СПАДЧЫНА

# ПАДАРОЖЖА Ў ДАЎНІЯ ЧАСЫ

**На зімовых вакацыях наш краязнаўчы гурток "Спадчына" наведаў Менскі гістарычны музэй. Мяне адразу заваражыла старажытная зброя.**

Больш за ўсё мяне ўразілі тры баявыя прылады. Першая зь іх — вялізная жалезная булава, якой мог валодаць хіба толькі сапраўдны волат. Другая прылада нагадала мне нейкі мушкет з даволі шырокай руляй – прыкладна чатыры сантымэтры ў дыямэтры. Даўжыня рулі не складала нават і дваццаці сантымэтраў. Адным словам, як зь яго стралялі? Трэцяе, што мяне ўразіла — пярэдняя частка панцыра. Па ёй можна было здагадацца, што ейны ўладальнік быў альбо крыху затоўстым, альбо даволі магутным чалавекам.

Не абыйшлася нашая вандроўка й без кур'ёзаў. Хтосьці з хлопцаў, пабачыўшы скарб, які складаўся з тонкіх манэтаў і некалькіх іншых рэчаў, назваў гэтыя тонкія манэты тонкім мэталем. Атрымалася даволі сьмешна. Нездарма прымаўка вучыць: "Пасьпяшыш – людзей насьмяшыш".

Карацей кажучы, чаго толькі мы ня ўбачылі ў тым музэі: і мэталічны посуд, і манэты розных часоў і краінаў, прыгожыя крэмневыя сякеры, капсульныя пісталеты, крэмневыя стрэльбы, гарматы розных памераў, друкарскі варштат, велізарныя замкі ды йнш. Думаю, што ў кожнага з нас засталіся добрыя успаміны пра гэтую паездку.

**Юрась Цітавец**

# ЗВОН МЯЧОЎ НА КРАПІВЕНСКІМ ПОЛІ

**Аб вандроўцы ў Воршу ў мяне засталіся добрыя ўспаміны.**



Найперш – бітва рыцараў. Я таксама прымяраў шлем і аглядаў меч. Але набліжаўсчя вечар. Вельмі не хацелася класьціся спаць, бо каля вогнішча гучалі чараўнічыя песьні пра Беларусь. Але ўрэшце, моцна стаміўшыся, я ня вытрымаў і пайшоў у свой намёт. Некаторыя з дарослых – сапраўдныя мужчыны, купаліся ў Дняпры. Я сказаў, што сапраўдныя, бо ў верасьні было ўжо вельмі халоднае надвор'е. Аднак я сам не наважыўся, хаця вельмі хацелася. Напасьледак перад ад'ездам мы зрабілі некалькі фотаздымкаў на памяць.

**Баяркін Артур**



Крупская моладзь

Малое ПАЛЕСЬСЕ
РЭДАКЦЫЯ
тэл/факс (01777) 67055
222120, Барысаў-15, п/с 641
e-mail:mp@crossrd.org.by
Галоўны рэдактар:
Марыя Бруніч
Шыхтоўля: Андрусь Гмыза
НАКЛАД 150 асобнікаў



Газэта "Малое ПАЛЕСЬСЕ" выказвае падзяку Барысаўскаму цэнтру грамадзкіх ініцыятываў "Скрыжаваньне" за тэхнічную падтрымку.